# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 22 (101) — Нядзеля 1 чэрвеня 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# У справе беларуска-летувіскай мяжы

У артыкуле, зьмешчаным у летувіскай газэце «Teviškas Žiburiai» (Канада) з дня 20. 3. 1952, № 12 (117) пад вышэй успомненым загалоўкам разглядаецца справа беларуска-летувіскай мяжы. Аўтар артыкулу піша:

«Адміністрацыйная мяжа паміж запраўднай Летувай і беларускімі правінцыямі Літвы ўпяршыню дакладней была ўстаноўленя ў 1566 годзе. Па летувіскім баку тады асталося 99.000 кв. км., у той час, калі беларусам асталося амаль падвойна. Пасьля адбудовы незалежнай Летувы й падпісаньні мірнага дагавору з савецкімі рэспублікамі ў Маскве 12 ліпеня 1920 г., летувіская тэрыторыя зьменшылася, таму што прыйшлося адступіць Беларусі Дзісьненскі й Вялейскі паветы». Далей аўтар піша: «Некаторыя беларусы цяпер ня хочаць прызнаваць межаў з 1920 г. зь Летувай (прызнаная саветамі летувісам мяжа ў 1920 г. праходзіла па лініі Друя-Браслаў-Паставы-Дакудава-Масты-Індура, пакідаючы ўсе гэтыя мясцовасьці па летувіскім боку і ўключаючы ў склад летувіскае рэспублікі ня толькі Вільню, але таксама й Горадзень, Ліду й чуць не Маладэчна, аддаленае ад летувіскае этнаграфічнае мяжы на 150 клм. — Рэд.) і ў свае карты ўцягваюць і самую Вільню, вялікую частку Джукіі і навет усю латыскую Латгалію.

Дзеля гэтага летувіскія сфэры зусім гэтым не пераймаюцца ды маюць пэўныя падставы, каб не клапаціцца аб гэтым. Але беларусам трэба было-б аб гэтым падумаць, хоць што-праўда, шмат беларусаў ня лічаць Вільні сваім горадам. Адзін із старэйшых іхных палітыкаў на эміграцыі мне сказаў: Калі-б Беларусі цяпер шчасьце незалежнасьці ня ўсьміхнулася, дык лепш было-б беларусам, каб Летува заняла як найбольш беларускіх абшараў, яна дала-б ім аўтаномію і дасьпеліла-б іх да самастойнага палітычнага жыцьця». Бальшыня зь іх ня хоча аднак прызнаць межаў з 1920 г., але разважнейшыя зь іх шукалі-б кампрамісу зь Летувай. Поводля іх выдатнага вучонага духоўніка з Баранавіч, Аркадзія Аркадзіевіча Любімца, Вільня павінна быць летувіскай сталіцай, якая не павінна была-б знаходзіцца на паграніччы. Але Летува, паводля яго, мусіла-б адпусьціць Беларусі Нарач і вузкую паласу тэрыторыі ўздоўж чыгункі Маладэчна-Ліда-Масты. Ім прапанаваная летувіска-беларуская мяжа — крыху папраўленая лінія Кэрзона, падпісаная ў горадзе Спа міністрамі замежных справаў Польшчы, Вялікай Брытаніі, Францыі й Італіі 11 ліпеня 1920 г. З падобнымі думкамі сярод беларусаў мне прыйшлося спаткацца ў 1930-34 гадох, падарожнічаючы па віленскай акрузе.

Якая будзе беларуска-летувіская мяжа пасьля вайны, цяжка цяпер прадбачыць, аднак да будучай мірнай канфэрэнцыі Летуве няма патрэбы мяняць межаў з 1920 году, таму што акупанты яе ўжо й так мянялі: Нямеччына ў 1941-44 г. г. Летуве прызнала 67.000 кв. км., ведама без Клайпэды й Друскенікаў, Расея зь Беларусяй цяпер прызнае Летуву Палецкаса з 65.197 кв. км. Яны вярнулі Клайпэду з Друськенікамі, але адабралі Ашмяну й Сьвір».

Вось мы й пачулі летувіскі голас у справе беларуска-летувіскай мяжы. Я не хачу тут уваходзіць у палеміку з аўтарам вышэй прыведзенага артыкулу адносна летувіскіх прэтэнсыяў да беларускіх земляў, да чаго яны ня маюць ніякіх падставаў. Права беларускага народу да гэтае тэрыторыі ёсьць пацьверджаным прыналежнасьцю насельніцтва да беларускай нацыянальнасьці, як і падзеямі гісторыі мінулых вякоў, і няма ніякай патрэбы іх бараніць, палемізуючы зь летувіскімі шавіністымі, гэта было-б раўназначна з паказваньнем на сьвятло сьляпому. Беларусам тымбольш няма прычынаў пераймацца летувіскімі прэтэнсыямі да беларускіх тэрыторыяў, толькі ўважаю патрэбным насьветліць беларускае становішча. Адначасна хачу зазначыць, што калі летувісы падмацоўваюць сваё становішча толькі савецкімі дагаворамі й асобамі, якія ня маюць ніякага права забіраць голасу ў вырашэньні лёсу беларускага народу, дык гэта значыць, што запраўдныя аргумэнты толькі на нашым баку.

Вось-жа калі йдзе аб няпрызнаньні беларусамі летувіска-беларускай мяжы з 1920 году паводля дагавору, падпісанага ў Маскве савецкімі рэспублікамі, дык мне здаецца, летувісам павінна быць ясна, што беларускі народ ніколі ня прызнаў і ня прызнае ніякіх умоваў, падпісаных савецкім урадам і яго партнэрамі, маючым на мэце зьліквідаваньне выказанай волі беларускага народу 25-га сакавіка 1918 г. да вольнага й незалежнага жыцьця ў сваіх этнаграфічных межах. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў сваей **Устаўной Грамаце,** выконваючы волю свайго народу, прызнала неабавязваючымі ўсе ўмовы, падпісаныя царскай Расеяй, як і тыя, якія будуць падпісаныя чырвонай Масквой бяз згоды беларускага народу. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі змагалася й будзе змагацца супраць усялякага гвалту над натуральнымі правамі беларускага народу.

З другога боку вельмі дзіўнай зьяўляецца летувіская ўпэўненасьць аб здабыцьці незалежнасьці і іх асьпірацыях да акупацыі як найбольшых тэрыторыяў Беларусі, прызнаньне беларусам толькі аўтаноміі і прысьпяленьні іх да самастойнага дзяржаўнага жыцьця. Мне здаецца сумліўным, каб летувісы самі, бяз супрацоўніцтва з сваімі суседзямі, маглі здабыць і запэўніць незалежнасьць хоць самой Жмудзі, не гаворачы ўжо аб акупацыі чужых тэрыторыяў. Калі-ж ідзе аб прысьпяленьні летувісамі беларусаў да самастойнага палітычнага жыцьця, дык летувісы не павінны забывацца, што беларусы шмат раней мелі самастойнае дзяржаўнае жыцьцё. Якраз, здаецца, гэта беларусы былі першымі, якія пісалі права летувісам у Статуце Вялікага Княства Літоўскага. Што датычыць апініі нейкага нікому няведамага «беларускага вучонага», духоўніка й палітычнага дзеяча Арк. Арк. Любімца, дык яна для беларусаў мае **столькі вартасьці, колькі й сама аргумэнтацыя летувіскай газэты. У нас на** Беларусі было шмат насаджана «царскіх любимцев», як цяпер сталінскіх, якія любілі й любяць таргаваць беларускімі землямі, але яны нас ня цікавяць, бо імі могуць быць зацікаўленымі летувісы й расейцы, якія так ласыя рабіць чорны гандаль. Другая падобная фігура Любімцу, якога аўтар называе старым беларускім дзеячом на эміграцыі, які летувісам прадае Вільню за прызнаньне яго аўтэрытэту, як дзяржаўнага кіраўніка, для беларускага народу прадстаўляе роўную вартасьць, што й Любімец. Ягоны аўтарытэт, як і сурагат дзяржаўнага апарату для беларусаў, перастаў існаваць з упадкам гітлераўскага рэжыму, у ўваскрашэньне якога трэба вельмі сумлявацца.

У канцы артыкулу аўтар піша, што летувіска-беларуская мяжа з 1920 г., устаноўленая ўмовай у Маскве савецкім урадам, не павінна-б была зьмяняцца, так як яе і так шмат разоў мянялі акупанты. Значыць сталінская Масква — не акупант. Вось гэты маленькі абразок зьяўляецца яскравым прыкладам лету-

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Генэрал Рыджвэй аб палажэньні у Карэі

Генэрал Мат'ю Рыджвэй, былы пасьля Мэк Артура галоўнакамандуючы збройных сілаў Задзіночаных Нацыяў у Карэі, а які быў узнагароджаны на пачатку мінулага тыдня найвышэйшай азнакай прэзыдэнтам Труманам, асьветчыў 21 травеня перад ваеннай камісыяй сэнату ЗША, што збройныя сілы Задзіночаных Нацыяў у Карэі, ня гледзячы на паступовае ўзмацненьне камуністычнай арміі, зьяўляюцца яны здольныя разьбіваць спробу кажнай новай афэнзывы чырвоных зь вялікімі стратамі для прыцiўніка.

Вывады генэрала Рыджвэя на закрытым паседжаньні сэнацкай камісыі былі ейным старшынёй, дэмакратычным сэнатарам Расэлям пададзеныя да ведама ў наступных пунктах:

1. Рыджвэй не зьяўляецца тэй думкі, што збройныя сілы ЗН ў Карэі могуць або павінны ў сучасны мамэнт распачаць афэнзыву.

2. Генэрал Рыджвэй не ацэньвае магчымасьці запраўднага перамір'я аптымістычна. Ён аднак-жа зьяўляецца думкі, што цяперашнія перагаворы аб перамір'і не павінны быць сарванымі.

3. Рыджвэй не зьяўляецца энтузыястам пляну выгнаньня камуністых з цэлай Карэі й расшырыць канфлікт шляхам бамбардаваньня камуністычных апорных пунктаў у Манджурыі.

4. Выпадкі ў лягеры ваеннапалонных на востраве Кое, калі камуністыя часова ўвязьнілі былага камэнданта гэнага лягеру генэрала Додда, зьяўляюцца, — на думку генэрала Рыджвэя — толькі часткаю камуністычнай прапагандовай праграмы.

Рыджвэй, — паводля выясьненьняў сэнатара Расэля — зьяўляецца й далей пераканаными, што для Японіі камунізм не прадстаўляе ніякай небясьпекі. Большая часьць японскага народу ёсьць гатовай заняць сваё месца ў вольным сьвеце, як дэмакраты й пашанавальнікі права. Генэрал Рыджвэй, які ўжо 26 травеня мае выляцець у Парыж з мэтаю абняцьця па Айзэнгаўэру становішча галоўнакамандуючага збройнымі сіламі Атлянтычнага Пакту, асьветчыў перад прадстаўнікамі прэсы, што ўзмацненьне савецкай пазыцыі на **Далёкім Усходзе** зьяўляецца фактам вялікага значэньня, на які ў Вашынгтоне й Токіё зьвяртаецца асаблівая ўвага.

У справе вымены ваеннапалонных у Карэі генэрал Рыджвэй заявіў, што Задзіночаныя Нацыі ніколі ня згодзяцца на прымусовую рэпатрыяцыю камуністычных ваеннапалонных, якія яе не жадаюць. «У праціўным выпадку, заявіў генэрал — мы адкінулі-б усе тыя асновы, за якія мы ў Карэі дагэтуль змагаліся.» З 170.000 камуністычных ваеннапалонных 100.000 пасьля свабоднага апытаньня адмовіліся катэгарычна быць выдадзенымі ў камуністычныя рукі. Гэтая колькасьць ваеннапалонных, што ня хоча быць рэпатрыяванай, дэмаскуе найлепей запраўдны характар чырвонай тыраніі. Задзіночаныя Нацыі ў справе ваеннапалонных заўсёды будуць пастулаць згодна гэнэўскай канвэнцыі. Затое-ж камуністыя гэнэўскую канвэнцыю зусім зігнаравалі, — заявіў ген. Рыджвэй на заканчэньне, — якія не дазволілі Міжнароднаму Чырвонаму Крыжу ўваходу ў лягеры ваеннапалонных у Паўночнай Карэі.

# Весткі з шырокага сьвету

**Падпісаньне дагавору аб эўрапэйскай арміі.** Пасьля доўгіх прыгатаваньняў быў 27 травеня падпісаны ў Парыжы дагавор аб эўрапэйскай абароннай супольнасьці, на моцы якога будзе створаная заходняэўрапэйская армія. Дагавор падпісала 6 дзяржаваў: Заходняя Нямеччына, Бэльгія, Францыя, Італія, Галяндыя й Люксэмбург.

**Генэральны дагавор зь Нямеччынай падпісаны.** 26 чэрвеня ў Бон быў падпісаны, ня гледзячы на ўсякія контрмеры з боку Савецкага Саюзу, генэральны дагавор Заходняй Нямеччыны з трыма заходнімі дзяржавамі: ЗША, Ангельшчынай і Францыяй. Пасьля ратыфікацыі гэтага дагавору парляментамі падпісаўшых яго дзяржаваў ён увойдзе ў сілу й з тым мамэнтам Нямеччына станецца поўнасьцю незалежнай дзяржавай.

**Савецкая зона Нямеччыны замыкае свае граніцы.** Рада міністраў Усходняй Нямеччыны 26 травеня выдала закон «Аб бясьпечнасьці нямецкай дэмакратычнай рэспублікі». Закон прадугледжвае прыняцьце суровых мераў дзеля ўзмацненьня й ахароны граніцы з Заходняй Нямеччынай, каб «перашкодзіць далейшаму пранікаyньню з Заходняй Нямеччыны дывэрсантаў, шпіёнаў, тэрарыстых і шкоднікаў на тэрыторыю нямецкай дэмакратычнай рэспублікі.» Кіраўнік інфармацыйнага аддзелу ўсходнянямецкага ўраду падаў да ведама, што на аснове гэтага закону на працягу ўсяе занальнае граніцы будзе створаная забароненая зона, зь якой будзе выселенае ўсё насельніцтва, а народная паліцыя атрымае загад страляць ува ўсіх людзей, якія ня будуць мець спэцыяльнага дазволу прабываньня ў забароненай зоне.

**Новая савецкая нота ў справе Нямеччыны.** 24 травеня была перададзеная ўрадам ЗША, Ангельшчыны й Францыі новая савецкая нота, якая была адказам на ноту заходніх дзяржаваў у справе Нямеччыны з 13 травеня. Савецкая нота паўтарае ранейшыя дамаганьні Савецкага Саюзу: склiканьня канфэрэнцыі чатырох дзяржаваў у справе задзіночаньня Нямеччыны й падпісаньня зь ёй мірнага дагавору. Нота пратэстуе супраць падпісаньня генэральнага дагавору з зах. Нямеччынай. Гэтая нота на Захадзе не зрабіла ніякага ўражаньня й расцэньваецца, як новы савецкі манэўр з мэтаю недапушчэньня да падпісаньня генэральнага дагавору.

**Прэзыдэнт Труман заклікае маліцца за мір.** У сувязі з амэрыканскім днём успамінаньня палеглых на вайне, які прыпадае на 30 травеня, прэз. Труман выдаў пасланьне, у якім заклікае маліцца ў гэты дзень за захаваньне трывалага міру.

**Дэпартацыя з румынскіх гарадоў.** Як паведамляе югаславянскае агенцтва «Таньюг», камуністычныя ўлады Румыніі распачалі масавую дэпартацыю «непажаданых элемэнтаў» з цэлага раду гарадоў. Найвялікшай дасюлешняй акцыяй у гэтым кірунку ёсьць высяленьне ўсяго насельніцтва прамысловага гораду Брасаў у колькасьці 200.000 чалавек у лягеры над Чорным морам, дзе цяпер створаны савецкі ваенны пункт.

**Амэрыка зьмяншае помач для заграніцы.** 163 галасамі супраць 116 амэрыканская палата рэпрэзэнтантаў зьменшыла помач Амэрыкі на абарону Эўропы на 615,300.000 даляраў. 28 травеня амэрыканскі сэнат гэтую помач абрэзаў на далейшых 200,000.000 даляраў.

**Перавага Амэрыкі над Саветамі зьмяншаецца.** Старшыня амэрыканскага кангрэсу Райбэрн, выступаючы супраць зьмяншэньня амэрыканскай фінансавай ваеннай помачы для Эўропы, заявіў, што перавага Амэрыкі над Савецкім Саюзам у галіне атамнай бомбы ўсьцяж зьмяншаецца, а перавагу лётніцкую Амэрыка страціла ўжо даўно на карысьць Савецкага Саюзу.

**Аддзелы Чан-Кай-Шэка напалі на чырвоных.** Аддзелы кітайскіх нацыяналістых, распалажаныя ў Бурме, зрабілі некалькі нападаў на камуністычныя ўмацаваньні 52 клм. у глыбіню кітайскай правінцыі Юнан і захапілі 319 камуністычных ваеннапалонных.

**За што выдаюцца Сталінскія прэміі?** К. П. Більнэр, кіраўнік аднаго прамысловага прадпрыемства ў Філядэльфіі, із зьдзіўленьнем даведаўся з «Праўды» й «Известий», што савецкі інжынэр Я. Гэршбэрг атрымаў Сталінскую прэмію ў вышыні 100.000 рублёў за вынаход, які ў запраўднасьці зрабіў ня Гэршбэрг, але ён, Більнэр яшчэ ў 1935 г. Більнэр паясьніў, што ён у 1944 г. асабіста дэманстраваў гэты вынаход перад савецкімі ахвіцэрамі й паінфармаваў іх аб ягонай канструкцыі.

**Чырвоны календар.** Афіцыяльны календар для Ўсходняй Нямеччыны на 1952 год прадугледжвае 15 камуністычных сьвятаў, вольных ад працы, і толькі 4 сьвяты рэлігійныя: Новы Год, Унебаўступленьне, Дзень Пакуты (пратэстанцкае сьвята) і Каляды. З гэтага відаць, што навет Вялікдзень там скасаваны, затое ўведзеныя сьвяты на дзень нараджэньня Маркса, Леніна й Сталіна.

# *Дзьве падзеі гістарычнага значэньня*

У мінулым тыдні адбыліся дзве важныя падзеі, якія могуць стацца зваротным пунктам у дасюлешняй абароннай палітыцы Захаду й якія бясспрэчна будуць мець вялікі ўплыў на далейшае разьвіцьцё выпадкаў.

Маем на думцы два міжнародныя дагаворы: 26 травеня сёлета быў падпісаны ў Бон доўгімі месяцамі прыгатаўляны генэральны дагавор паміж заходнянямецкай рэспублікай і трыма заходнімі дзяржавамі, а дзень пазьней — 27 травеня ў Парыжы была падпісаная ўмова аб стварэньні эўрапэйскай абароннай супольнасьці паміж шасьціма заходняэўрапэйскімі дзяржавамі, у выніку якой будзе створаная эўрапэйская армія.

Абодвы гэтыя факты знаходзяцца між сабой у прычыновай сувязі. Падпісаньне генэральнага дагавору зь Нямеччынай прывяртае апошняй поўны сувэрэнітэт і дае ей магчымасьць уваходу ў сям'ю вольных народаў Захаду на палажэньні раўнапраўнага партнэрства. У замен за гэта Нямеччына будзе ня толькі карыстацца з усіх дабрадзействаў сваей дзяржаўнай незалежнасьці, але й несьці ўсе цяжары, якія на яе ўскладаюцца, як на незалежную дзяржаву, зьвязаную вынікаючымі з гэтага дагавору забавязаньнямі перад Захадам. Пайменна, Нямеччына павінна даць свой кантынгент жаўнераў для эўрапэйскай арміі. Падпісаньне-ж дагавору аб стварэньні эўрапэйскай арміі, пад якім першым па парадку быў палажаны подпіс нямецкі, зьяўляецца непасрэдным вынікам дагавору першага.

У цэлай гэтай справе трэба падчыркнуць два важныя аспэкты: нямецкі й агульнаэўрапэйскі, разумеючы пад гэтым апошнім, рэч зразумелая, толькі заходнюю, не апанаваную бальшавізмам Эўропу.

Нямеччына ў вабароннай сыстэме эўрапэйскага Захаду можа адыграць такую самую ролю, што Японія ў вабароннай сыстэме азыяцкага Ўсходу. Як абарона ўсходняй Азыі безь Японіі зьяўляецца толькі ўтопіяй, такой-жа самай утопіяй можа быць абарона заходняе Эўропы бяз удзелу Нямеччыны. І таму мірны дагавор зь Японіяй, які быў падпісаны 8 верасьня 1951 г. у Сан Францыско, вызнаў за ей ня толькі поўны сувэрэнітэт, але й раўнапраўнае партнэрства ў сям'і вольных народаў Захаду, быў дагаворам, — як прызналі й самі японцы — запраўднае вялікадушнасьці й стварыў усе спрыяльныя перадумовы для прыцягненьня энэргічнага, прадпрыемлівага й ваяўнічага васьмідзесяцімільённага японскага народу да супрацоўніцтва з заходнім сьветам.

Паколькі такое ўпарадкаваньне дачыненьняў зь Японіяй не напатыкалася на асаблівыя перашкоды, патолькі справа зь Нямеччынай сталася нязвычайна складанай і скамплікаванай. Справа ў тым, што пасьля заканчэньня апошняй вайны Нямеччына была падзеленая: часьць яе апынулася пад акупацыяй Савецкага Саюзу, а другая часьць — пад акупацыяй заходніх дзяржаваў. І таму з мамэнтам, калі замоўклі гарматы апошняй вайны, распачалося палітычнае змаганьне за Нямеччыну. Нямеччына на Захадзе сталася галоўным фронтам халоднае вайны, што вядзецца паміж камуністычным Усходам і дэмакратычным Захадам.

Саветы, улічваючы вялізарнае значэньне Нямеччыны ў будучай гарачай вайне, ужывалі ўсіх палітычных і прапагандовых сродкаў з мэтаю калі не перацягненьня заходняй Нямеччыны на свой бок, то прынамсі ейнага зьнэўтралізаваньня. І вось 26 травеня, з мамэнтам падпісаньня генэральнага дагавору Нямеччыны з заходнімі дзяржавамі, бальшавікі гэты бой за Нямеччыну бессаромна прайгралі, гэтаксама як прайгралі яны бой за Японію 8 верасьня мінулага году.

Другі аспэкт гэтае справы заключаецца ў тым, што падпісаньне дагавору з 27 травеня абазначае, што тэарэтычныя прыгатаваньні да стварэньня заходняэўрапэйскай арміі закончыліся, у сьлед за чым мае наступіць практычнае рэалізаваньне гэтае праблемы. Заходняя Эўропа перамагла такім чынам аснаўныя нутраныя супярэчнасьці й уступіла ў фазу запраўднага задзіно-

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Сялянскае землякарыстаньне на Беларусі

## I. СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА ДА ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ 1917 ГОДУ

Беларускі селянін адвечна марыў аб сваім уласным куску зямлі з выгаднаю сялібаю, чыстаю смачнаю вадою для піцьця, урадлівымі нівамі й сенажацямі, ды харошымі памеркаванымі суседзямі. Ажыцьцяўленьне гэтых мараў было вялікай радаснай падзеяй у жыцьці, сьветлым сьвятам, ад якога вёўся падлік гадоў народжаным і памерлым у сямы, прызваных у войска й іншым важным здарэньням.

Ня дарма наш выдатнейшы паэта Якуб Колас у сваей цудоўнай паэме «Новая Зямля» так вобразна й прыгожа, з талянтавітай аналізай сялянскіх думак-мараў праўдзіва адлюстраваў прагавітую смагу зямельную панскага лясьніка Міхася й яго брата Антося.

Калі мы зробім невялікую экскурсыю ў гісторыю землякарыстаньня на Беларусі, то пераканаемся, што ад часу вызваленьня ад панскага прыгону да новай калгаснай паншчыны толькі шчасьлівыя адзінкі, перамагаючы надзвычайныя цяжкасьці, змаглі наладзіць сваё сялянскае жыцьцё паводля сваіх думак і жаданьняў.

Не патрэбна асобных доказаў і прыкладаў, каб беспамылкова пераканацца, што нашае сялянства, вызваленае ад прыгону й надзеленае зямлёю маніфэстам цара Александра II у 1861 годзе было моцна пакрыўджана. Самыя горшыя землі абшарнікі аддалі ў надзелы былым прыгонным. Неўрадлівыя пяскі, часта за дзесяць-пятнаццаць кілямэтраў ад сялібаў, ды балоты з кіслаю асакою й лазьняком, былі «дараваны» сялянам у выкананьне міласьцівага маніфэсту цара-вызвольніка. За гэтыя царскія й панскія ласкі сяляне абавязаны былі выплачваць кошт зямель на працягу пяцідзесяці гадоў. Выкупілі й усе заплацілі! А між іншым нашы прадзеды й дзяды мелі бязумоўнае права й бяз выкупу атрымаць сваю зямлю.

Крыўды былі ў той час адсунуты ў бок, хаця паасобныя паўстаньні на Віцебшчыне, Магілеўшчыне асабліва, як трывожныя зарніцы, асьвятлялі небасхіл. Слаўнае паўстаньне ў 1863 годзе пад правадырствам Кастуся Каліноўскага, гэта першая спроба беларускіх сілаў із зброяю ў руках здабыць незалежнасьць, бязумоўна мела мэтаю справядліва вырашыць у першую чаргу сялянскае пытаньне. Ня дарма-ж Кастусь Каліноўскі паўстанскую газэту назваў «Мужыцкая Праўда». Паўстаньне было задушана. Крыўда ня зьнята, няпрыкрытае ашуканства пры надзяленьні зямлёю пасьля скасаваньня прыгону засталося, чым выклікала справядлівы недавер сялян да абшарнікаў і рознага роду чыноўнікаў. Недавер, як ліхая спадчына, так і застаўся назаўсёды.

Устойлівасьць сялянскіх гаспадарак ня была абаронена спэцыяльнымі разумнымі законамі, як гэта мела й мае месца напрыклад у Нямеччыне. Таму ня выпадкова, ужо ў першых гадох нашага стагодзьдзя ў вёсках амаль зьніклі моцныя з поўнымі надзеламі гаспадаркі. Як толькі ў сем'ях павялічваліся дарослыя, якія ня мелі іншых спосабаў жыцьця, як земляробства, сялянскія сем'і прыступалі амаль бяз выключэньня да падзелу зямлі й іншай маемасьці.

У выніку такіх падзелаў у вёсках не хапала месца на сялібах для будаўнітва хатаў новым гаспадаром. У такіх выпадках узьнікалі паралельна з старымі сядзібамі новыя вёскі-выселкі. Такое зьявішча вельмі выразна можна бачыць у вёсцы Лучнікі, якая знаходзіцца каля самага гораду Слуцку, або у вёсцы Языль у чатырох кілемэтрах ад Ст. Урэчча. Гэтыя вёскі сталі «двух і трох павярховымі». Вузенькія ніўкі дзялілі ўжо ня ўздоўж, а аддзельнымі кускамі ўпоперак, бо барана была шырэйшаю за ніўку й займала-бы сваімі зубамі паласу суседа. Гэтыя сямейныя падзелы гаспадарак, выклікалі між братамі й блізкімі родзічамі сваркі й бойкі, судовыя справы, якія цягнуліся гадамі й бязумоўна выклікалі толькі непатрэбныя траты сродкаў і часу. Новыя маламоцныя гаспадаркі прымацоўвалі да сябе селяніна й трымалі яго на становішчы галоднага поўпралетара, які хапаўся за ўсялякую выпадковую працу, каб пракарміць сям'ю. Ён наймаўся ў парабкі да абшарніка за самую нізкую аплату за працу, ехаў у Данецкія вугольныя шахты (Магілеўшчына) на цяжкую працу шахцёра, працаваў на вырубках і сплавах лесу, наймаўся арцелямі на цяжкія земляныя работы на будовах чыгунак. Не выпадкова-ж ведамы расейскі пісьменьнік Некрасаў у сваей паэме «Жалезная дорога» так спагадліва адазваўся аб беларусу землякопу. Сапраўды, рукамі беларускімі будаваліся тагачасныя чыгункі.

Больш адважныя, маладыя й здаровыя астаўлялі сваю неласкавую бацькаўшчыну й ехалі за акіян у далёкую Амэрыку, Канаду, Аргентыну, каб там на чужыне знайсьці лепшую долю й дабрабыт. Большасьць з эмігрантаў ставілі мэту, каб на самай цяжкай працы загараваць неабходныя сродкі, вярнуцца на бацькаўшчыну, дзе набыць зямлю й уласны кут. Войны, акупацыі, ды савецкі серп і молат шмат каго затрымалі на чужыне назаўсёды.

Гэтым толькі можна тлумачыць шматлюдную беларускую старую эміграцыю у ЗША.

Тыя, што мелі працаздольныя сем'і, шукалі ратунку ў арэндах зямлі, якую бралі ад дробных земляўласьнікаў. За грошы, на палову ўраджаю й іншыя варыянты аплаты за права апрацоўваць чужую зямлю, асяляліся арэндатары. Мэта была адна: праз пятнаццаць-дваццаць гадоў цяжкай працы, ашчаднасьці ўва ўсім, абмежаваньняў самых неабходных патрэбаў, зьберагчы сродкі, пасьля набыць зямельную ўласнасьць, каб спакойна дажыць працоўны век на сваей зямлі й каб дзеці ўжо не валачыліся па сьвеце.

А хто падлічваў той беларускі народ, які з торбамі на плячох, за многа дзесяткаў кілямэтраў шукаў новыя землі на бязьмежных былых лясных абшарах магнатаў кн. Голенлёе, гр. Плятараў, Гамаліцкіх і іншых.

Лес у векавых пушчах бязьлітасна быў зьнішчаны й вывезены за межы краю, а пасекі з п'нёўям засталіся. Сярод гэтых пнёўяў на Бабруйшчыне, Ігуменьшчыне, Барысаўшчыне ды амаль на ўсей лясной Беларусі шукаў народ месца для працы на зямлі й жыцьця.

За гаротныя сродкі, ды пры дапамозе банкаўскага крэдыту набывалася пасека. Селянін астаўляў цесную вёску, прадаваў нярухомую маемасьць і з сваім скарбам і сям'ёю перабіраўся на новую зямлю. Каб пабудаваць сваё жыцьцё на гэтых, часта й добрых землях, патрэбна была сіла, упартасьць і вытрымка перанесьці цяжкія ўмовы жыцьця першага дзесятка гадоў. Выплаціўшы крэдыт, пабудаваўшыся, перабраўшы кажны кусочак зямлі матыкаю, ачысьціўшы пасеку ад карчоў можна было ўжо спадзявацца на дабрабыт. І сапраўды, праз шэраг гадоў на дзікіх пнёўях пакутнікі стварылі квітнеючыя хутары, засьценкі, пасёлкі. Шырокая паласа гэтых пасёлішчаў з заможным сялянскім жыцьцём, цягнулася па абодвых бакох старой шашы, пачынаючы ў некалькіх кілямэтрах ад Слуцка, аж да самай рэчкі Арэсы й далей на поўдзень да балотаў Любаншчыны.

Знашлі сабе месца беларусы, асабліва з Магілеўшчыны, на землях далёкай Сібіры, куды было арганізавана, хоць і дрэнна, перасяленьне, так званым перасяленчым камітэтам дзяржавы расейскай.

Аднак усе гэтыя пошукі зямлі не маглі вырашыць цалком зямельнага пытаньня на Беларусі. Першая сусьветная вайна зь яе зьнішчэньнямі, доўгатрывалым фронтам на абшарах нашай бацькаўшчыны, прымусовым бежанствам, канчальна падарвалі эканоміку вёскі, аставіўшы пажарышча, калючы дрот, незасыпаныя акопы, калекаў, удоў, сірот, ды бязыменныя магілы па бакох вялікіх дарог.

Поруч з малазямельнай вёскай вялася гаспадарка ў маёнтках абшарнікаў. Урадлівыя палі, сакавітыя мурожныя, або заліўныя сенажаці, тысячы гэктараў цудоўных бароў, танныя рабочыя рукі стварылі ўсе ўмовы, каб маёнткі на Беларусі сталі нявычарпальнай крыніцай розных сельска-гаспадарчых прадуктаў. З боку абшарнікаў неабходна было толькі стараньне, каб далёка не адстаць ад тэхнікі й тых агранамічных мерапрыемстваў, якія ўжываліся ў сельскай гаспадарцы на Захадзе. На добры лад абшарнікі абавязаны былі пабудаваць цэлы шэраг прадпрыемстваў у маёнтках па перапрацоўцы й кансэрвацыі сырых прадуктаў зямлі, садоў, гародаў. Прадукцыя такіх прадпрыемстваў як крахмальні, масласыраварні, сушыльні фрухтаў і гародніны, алейні, знайшлі-бы збыт, а млыны, цагельні, чарапічныя заводы садзейнічалі-б эканамічнаму росту краю. Наагул, усякія прадпрыемствы нясуць прагрэс, даюць рух уперад, а галоўнае далі-бы працу безьзямельнаму сялянству, чым паслабілі-бы на вёсцы нэндзу й галечу.

Праўда, Беларусь мела досыць густую сетку бравароў. Але бравары не працаёмкія прадпрыемствы й прыносілі барышы толькі абшарнікам. Сьпірт меў добры збыт, а сыравіна для яго — бульба вельмі ўрадлівая на нашых глебах. Нашы паны-абшарнікі ня думалі аб дабрабыце краю, на далёкай адлегласьці стаялі ад народу, вялі ў большасьці лёгкадумнае жыцьцё, раськідаючы й прагульваючы аграмадныя сродкі за межамі й на розных «цёплых водах».

**Васіль Будзімер**

(Працяг будзе)

# Крывавы дыктатар Беларусі

Былы савецкі палкоўнік Г. Такаеў, які перад некалькімі гадамі «выбраў свабоду» й на балонах прэсы інфармуе сьвет аб жахлівасьцях савецкай сыстэмы, надрукаваў у месячніку «Кавказ» за травень 1952 г. артыкул п. н. «Крамлёўскія дыктатары», у якім характарыстыку гэтых дыктатараў пачынае ад былага сакратара цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Беларусі К. П. Панамарэнкі. Вось што піша Такаеў пра гэтага ўзапраўды крывавага дыктатара Беларусі:

«Пачнём хаця-бы з П. К. Панамарэнкі. Гэты абруселы ўкраінец ня толькі сакратар ЦК ВКП(б), сябра Агрбюро, Сакратарыяту й Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, міністар загатовак, але й фактычны дыктатар раду камітэтаў і камісыяў. У партыю бальшавікоў ён паступіў пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі, аб якой ведае толькі з кніжак. На палітычнай арэне ўпяршыню паявіўся ў 1937-38 г. г. у якасьці аднаго з тупых, суровых і фанатычных бюракратаў апарату, што будавалі кар'еру на вынішчэньні старой гвардыі бальшавізму.

Панамарэнка — непасрэдны арганізатар разгрому беларускіх кіраўнікоў і «буржуазных нацыяналістых», за што Сталін і Молатаў у 1939 г. назначылі яго першым сакратаром ЦК Беларусі, а ў 1939 г. сябрам ЦК ВКП(б). Выключную ролю зыграў ён у прыгатаваньні бессаромнага ўдару ў сьпіну сьцякаючай кроўю Польшчы ў верасьні 1939 г., а потым — у прылучэньні Заходняй Беларусі да СССР.

У першы месяц савецка-нямецкай вайны Беларусь аказалася пад акупацыяй. Камандуючы фронтам генэрал-палкоўнік Паўлаў быў расстрэлены на загад Сталіна. Панамарэнка ўцёк у Маскву да сваіх гаспадароў, але хутка атрымаў дадатковыя становішчы старшыні савету народных камісараў, надзвычайнага ўпаўнамочанага дзяржаўнага Камітэту Абароны і сябры галоўнага штабу партызанскага руху Беларусі. На апошнім становішчы ён аказаўся на вышыні патрабаваньняў, за што пасьля вайны галоўныя дыктатары расьпіхнулі перад ім вароты далейшай кар'еры.

У 1948-49 г. г. на Беларусі ўзноў былі выкрытыя моцныя вогнішчы «буржуазнага нацыяналізму» — гэты ярлык прыклейваюць кажнаму апазыцыйнаму руху ў нерасейскіх раёнах СССР, які ставіў сабе за мэту дабівацца аслабленьня дыктатуры Масквы й прадстаўленьня шматпакутнаму народу больш самастойнасьці ў нутраным жыцьці. Рэспубліка, што сталася пэрманэнтным тэатрам зьнішчальных войнаў, перамененая ў гігантычную сталую казарму імпэрыі, затоптаная салдатнёй, кінутая нямецка-савецкай вайной у царства галіты й прымітыўных зямлянак, не магла болей глядзець абыякава на новыя ваенныя прыгатаўленьні і ўсюды пачалі расьці стыхійныя ўзрывы незадаваленьня.

«Ведаеце, таварыш начальнік» — сказала менская вучыцелька, прыязна прадставіўшая мне начлег у сваім адзіным пакоіку, якая ня сумлявалася, што я чыстакроўны Іван, — «якая-б ня была вайна, а ў першую чаргу ад яе церпім мы, беларусы, а ня вы, маскалі, прывыкшыя заграбаць жар чужымі рукамі! Маскву ніхто ня грабіць, вашых жанчын ня гвалцяць то савецкія, то гітлераўскія салдаты, вас ня выганяюць з памешканьняў на вуліцу, вашыя памешканьні ня нішчацца, а мы ад усяго гэтага сытыя па самае горла й будзе лепей, калі пакінеце нас у спакоі. Жывіце ў сваей Маскве, любіце свайго Сталіна, а мы як-небудзь абыйшліся-б і бяз вас.»

«Чаму ўсяго гэтага не расказаць т. Панамарэнку?» — зацеміў я, на што наступіў цікавы адказ:

«Расказаць т. Панамарэнку? Бескарысна! Абы задаволенай была Масква, а на Беларусь яму напляваць!»

«На Беларусь яму напляваць» — дакладней схарактарызаваць Панамарэнку, гатовага бараніць Маскву да апошняга ўкраінца, беларуса, каўкасца й прыбалта, нельга. Ня дзіва, што ён і на гэты раз з дэспатычнай безашчаднасьцю выпаліў напаленым жалезам усё, што непасрэдна або пасрэдна нагадавала беларускі нацыянальны патрыятызм. Гэта прынесла новае задаваленьне галоўным дыктатарам, якія ў 1949 г. зрабілі яго адным із найбольш магутных сябраў вышэйшай алігархіі...

Панамарэнка — чалавек не дзяржаўнага калібру, у ім няма ні арыгінальнасьці, ні ўзьлёту тэарэтычнай фантазыі. Проста ўзорны фанатык-выканальнік чужой волі, кругазор якога вычэрпваецца кнігамі Леніна й Сталіна.»

# У справе беларуска-летувіскай мяжы

(Заканчэньне)

віскай аб'ектыўнасьці і іхнай маралі ў палітычных дачыненьнях з сваімі суседзямі й наагул. Сталінская Расея ёсьць добрай і ня ёсьць акупантам, калі коштам беларускага народу павялічвае тэрыторыю Летувы. Гітлер ёсьць акупантам, што прылучае гэтыя землі ўзноў да Беларусі. Авантурнік з пад знаку гітлераўскага рэжыму ёсьць добры, бо аддае Летуве Вільню. Так што, паважаныя спадары з пад знаку «Tėviškas Žiburiai», мы вам радзілі-б перастаць займацца чорным гандлям, а прыступіць да рэальнай і канструктыўнай палітычнай дзейнасьці, якая прынясе вам шмат больш карысьці.

**Ч. Кукель**

ЯКУБ КОЛАС

(19)

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## ПАЭМА

### XXIII

### ПАНСКАЯ ПАЦЕХА

Якраз пад Вербніцу ў суботу,
У самы сьнег і гразь і слоту
Ў будан Міхал з Алесем пхаўся.
Вада пад коламі плюхцела.
Конь-Ножык клыгаў, адступаўся,
— Бадай тут іх нуда паела!
Вязі з гумна для іх салому
І стол цягні апошні з дому,
Каб мелі дзе на чым пажэрці,
Бога ня нашага вы чэрці, —
Міхал паноў кляне і лае;
А ён загад з кватэры мае
Сюды, ў будан, каб смачна спалі
І гора-бы паны ня зналі,
Завезьці стол, услон, саломы.
„Будуй ты ўсюды ім харомы.
Завошта-ж ім, спытаць, пашана?
Навошта Бог трымае пана?
Дзеля таго, каб панавалі
І нашым братам папіхалі?
Ці ласку ў Бога заслужылі?
Каб іх тут песьцілі, тулілі? . . .
Эх, брат! усё то — ашуканства!
Калі-нібудзь ім згіне панства".
І чуў Міхал нутром, душою,
Ня мае грунту пад сабою;
Вось лад такі на гэтым сьвеце:
Адны ў пашане, тыя ў сьмецьці
І век жывуць пад нейкім страхам,
Ўсе-ж вышлі ў жыцьцё адным шляхам!
І што ты зробіш? пакарайся
І аднаго гужа трымайся.
Да буданоў ён пад'язджае.
Пад'ехаў, коніка спыняе,
Зьнімае стол, услон, салому,
Алеся шле з канём дадому,
А сам агонь тут раскладае,
Салому сушыць, прыбірае,
Бо заўтра будзе паляваньне:
Паны пад вечар прыязджаюць,
Іх на кварэры ўжо чакаюць,
Сюды прыпрэ іх у зьмярканьне.
Пад вечар неба праясьнілась,
І ўсё вакол разьвесялілась:
„Глядзі — паном і тут шанцуе:
Сама пагода ім слугуе,
І сонца сьвеціць, стала ціша,
Багатым чорт дзяцей калыша", —
Міхал у думках зазначае
І сам з сабою разважае.
І рупіць гэта паляваньне,
А заўтра ранкам у сьвітаньне
Яму падводзіць трэба пана.
А ну-ж глушэц неспадзявана
Зьляціць куды, ці так зарвецца,
Калі на гэта павядзецца,
А ты сьвяці тады вачамі
Перад лясьнічым і панамі.
— А, ты ўжо тут! тырчыць, як паля!
Здароў, як маешся, Міхале?
А Пальчык громка засьмяяўся.
— А так і маюсь, ягамосьцю! —
Ня то з усьмешкай, ня то з злосьцю
Міхал з будана адазваўся,
— Ты, брат, як пан той у будане.
— А што ты думаеш, васпане?
Хіба ня пан? — Міхал падняўся,
Як пан, у бокі важна ўзяўся
І з панскай мінай пахаджае,
Папольску Пальчыка пытае:
Я далам тобе, дурню, хлеба! . . .
— Цо повеш, галган? цо патшэба?
Ідзь до д'ябла! — Пан праўдзівы! —
Ізь сьмехам Пальчык адзначае;
Спатканьня гэты тон жартлівы.
Абодвух сьмехам пашыбае
Праз поўгадзіны ўсе сышліся.
Цяпер размовы павяліся
Наконт паноў і паляваньня.
Ох, дасьць Ракоўскі заліваньня,
Калі паном не пашанцуе,
І сам глушца не запалюе;
Так і ўськіпіць, як рак чырвоны —
Такі ён кручаны, шалёны!
Сам вінават — цябе аблае,
За няма што з гразёй зьмяшае.
Ох, і паганая урода,
Прышыбла-б дзе яго калода!
Абрыцкі моўчкі дым пускае
Аб чымся думае сукрыта;
І люльку пальцам прыціскае,
Усьмешка нейкая разьліта
І па твары і пад вусамі.
І толькі ўськіне ён вачамі
То на таго, то на другога,
Ды не прамовіць ён нічога,
Бы засмучае штось старога.
— І толькі ўськіне ён вачамі
То на таго, то на другога,
Ды не прамовіць ён нічога,
Бы засмучае штось старога.
— Ўставайце: едуць! — Усе ўсхапілісь,
Захвалявалісь, захадзілісь,
Знакі на грудзях папраўляюць
І на спатканьне выбягаюць
І ўраз спыняюцца, стаяць —
Паноў тых трэба прывітаць.
Паны ў калясцы пад'язджаюць.
Фурман тут лейцы падцінае,
Стаенных пару прыпыняе,
А пан Абрыцкі зь лясьнікамі
Скланілісь нізка прад панамі.
Паны чуць-чуць адно зірнулі,
На іх увагі не зьвярнулі,
Як-бы ня людзі то стаялі,
І ў свой будан павандравалі.
Тут лясьнікі бягом да брычкі,
Бо знаюць панскія прывычкі,
Нясуць іх стрэльбы і пакункі,
Прылады розныя, ладункі,
І ў будане іх прыбіраюць,
Паном, як могуць, дагаджаюць.
Паны-ж ня бачаць іх, ня чуюць,
Бярэ іх нейкі рух, жартуюць;
Усё іх цешыць, забаўляе,
Прасьцецкі стол, салома, лавы,
Будан, агонь, начлег цікавы,
На лад вясёлы падымае:
Таксама цешыць паляваньне, —
Ім тут цікава ўсё дазваньня,
І ўсе іх глупствы выпаўняюць.
Апроч людзей, што ім так дбаюць
Тут быў Ракоўскі, пан лясьнічы,
Зь Нясьвіжа глаўны кіраўнічы
Маёнткаў княжацкіх, пан Сьвіда,
Быў пан Кржывіцкі, равізовы,
І трэці пан, даўгі як дзіда,
Яшчэ нябачаны тут, новы.
Цямнее ў лесе. Ноч надходзіць,
Марозік зьлёгка націскае
На небе месяц усплывае,
Задуму смутную наводзіць
І лес маўклівы азірае.
Гарыць-дрыжыць агонь шумлівы,
А залатыя пералівы,
Вуглёў міганьне-дрыгаценьне
Шчыты агнёвыя, кароны,
Ім ткуць чароўнае адзеньне:
То ярка сьветлы, то чырвоны.
Шугае полымя бурліва,

# Лыжка расейскага дзегцю

**Высокапаважаны Спадар Рэдактар!**

Вельмі прыкра, што ў бочку беларускага мёду трапіла лыжка расейскага дзёгцю. Я гэтым маю на ўвазе артыкул «Беларускія партызаны», зьмешчаны пад подпісам «Паводля матар'ялаў Я. Майсеянкі і С. Палякова» у расейскай газэце «Голас Народа» за № 12/62 і перадрукаваны ў № 15-16/94-95 газэты «Бацькаўшчына». Прыемна, што расейская эміграцыйная прэса адзначае гэраічнае змаганьне беларускіх партызанаў з расейскім бальшавізмам, але разам з тым надзвычай прыкра, што вышэйадзначаныя аўтары сьвядома або несьвядома перакручваюць запраўднасьць, уводзячы гэтым у блуд і рэдактараў і грамадзкасьць. Іхні артыкул без малага цалкам не адпавядае праўдзе. Таму дазвольце мне, як знаёмаму з пытаньнямі, парушанымі двумя глыбокапаважанымі аўтарамі ў сваім артыкуле, забраць у гэтай справе голас.

Адзінай гістарычнай асобай, што прыгадваецца ў артыкуле, зьяўляецца агульнавядомы партызан Магілёўшчыны Чырвонец, але не адпавядае праўдзе сьцьверджаньне аўтараў, што «ён не чапаў насельніцтва, а нападаў толькі на чэкістых». Ніхто з беларускіх партызанаў не праліў столькі крыві мірнага насельніцтва, як Чырвонец. Гэта асабліва кідаецца ў вочы, калі параўняць яго з такімі нашымі палітычнымі партызанамі, як Лукаш Семянюк (Барысаўшчына), Юрка Моніч (Барысаўшчына), браты Жыгалавы (Смаленшчына), палкоўнік Дзяркач-Адамовіч («Зялёны Дуб»), Паўлюк Нілёнак (Віцебшчына), Прымачок (Магілёўшчына), Паўлюк Калечыц (Койданаўшчына), Сапляк (Гомельшчына), Жылінскі (Ігуменшчына) і шмат, шмат іншых. Таму, калі думаеш пра тое дадатняе, што зрабіў Чырвонец, дык адначасна ў памяці ўстаюць і сабой гэтае дадатняе засланяюць сотні акрываўленых ценяў, закатаваных ім сумленных мірных працаўнікоў. Не адпавядае таксама запраўднасьці і тое, што калі чэкістыя канваіравалі схопленага імі Чырвонца ў Клімавічы (люты 1925 г.), дык з боку партызанаў мелася спроба вызваліць яго. Ня было ўжо каму тады вызваляць.

Вымыслам аўтараў зьяўляецца аддзел «Бацькі-атамана», які паводля іхніх словаў дзейнічаў каля Чавусаў. Не кажучы ўжо аб тым, што беларусам, якія паходзяць з Чавусаў, нічога рашуча не вядома аб гэтым аддзеле, дык трэба зазначыць, што вакол гэтага гораду радыўсам прынамсі ў 100 кілёмэтраў няма такіх «непраходных балотаў», што прыгадваюцца ў артыкуле, праз якія трэба прабірацца толькі «з дапамогай пераносных мастоў». Такія балоты запраўды ёсьць у Усходняй Беларусі (Верацейскае, Грычын, Жакаўскі Мох і інш.), але толькі не ў ваколіцы Чавусаў. Што датычыць годнасьці «Бацькі-атамана», нададзенай аўтарамі кіраўніку мітычнага аддзелу, дык такую годнасьць паміж партызанамі Беларусі, незалежна ад раёну іхняе дзейнасьці, меў толькі зусім ня мітычны генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч.

Вымыслам аўтараў зьяўляецца большая палова артыкулу, прысьвечаная партызанскаму аддзелу «Белая Сьвітка», над якім таму варта затрымацца падрабязьней.

Перш за ўсё трэба зазначыць, што пад горадам Вялічкай аўтары пэўне разумеюць горад Вяліж Смаленскае вобласьці (у мінулым — Віцебскае губэрні), які здаўна належыць да этнаграфічнае Беларусі. Увогуле на Беларусі няма ні гарадоў, ні мястэчкаў з гэткай ці падобнай назвай, калі ня лічыць рэчку Вяліжку, што ў Вяліжы ўцякае ў Дзьвіну. Затое ў Паўднёвай Польшчы запраўды ёсьць горад Вялічка, вядомы сваймі салянымі капальнямі, але знаходзіцца ён на адлегласьці 1500 кілёмэтраў ад Вяліжу.

Аднак гэтае меньш істотна ў параўнаньні з наступным. Ніхто з вяліжанаў, хто жыў у той час у Вяліжы, а цяпер знаходзіцца на эміграцыі, ня ведаюць аб існаваньні калісьці аддзелу «Белая Сьвітка», як не вядома ім таксама нічога наконт зацятага бою, які нібы адбыўся ў іхнім горадзе ў 1934 г. паміж гэтым аддзелам і чэкістымі. Упяршыню чуюць яны і аб растрэле «27 студзеня, а другой гадзіне ўночы» 316 партызанаў з гэтага аддзелу. Затое яны да скону жыцьця свайго не забудуць, што «за магільнай сьвятыняй» г. зн. на Пакроўскім полі, якое атрымала між іншым сваю назву ад гэтае сьвятыні, бальшавікамі растраляныя, пачынаючы ад Вяліскага паўстаньня 1918 г. і да другое сусьветнае вайны, каля 1000 паўстанцаў і партызанаў. Заслугоўваюць далей увагі імёны асобаў, якія паводля волі аўтараў кіравалі «Белай Сьвіткай» і былі ў 1934 г. растраляныя. Імя Хведара Сыча нікому з вяліжанаў не вядомае. Затое вядомы — Вайцэхоўскі, Красінец і Турык (а не «Турек», як у аўтараў). Вайцэхоўскі і Красінец зусім не загінулі ў 1934 г., а былі арыштаваныя ў лютым 1942 г. часткай чырвонае арміі, якая захапіла прадмесьце Вяліжу-Віцебскую Слабаду. Нам нічога не вядома аб іх далейшым лёсе, але аднак добра вядома, што яны былі арыштаваныя па справах, якія ня маюць аніякага дачыненьня да беларускіх антыбальшавіцкіх партызанаў. Турык і чатыры іншых антыбальшавікі (Шаганаў, Крупскі, Морман, Брандт), растраляныя чэкістымі напярэдадні Вяліскага паўстаньня у чэрвені 1918 г.

Калі навет спакінуць без увагі гэтыя шчырыя сьветчаньні вяліжанаў, зусім не зацікаўленых у перакручваньні праўды, дык нават і павярхоўна знаёмы з савецкай рэчаіснасьцю прыме за жарт сьцьверджаньне, што ў 1934 г. (другая сталінская пяцігодка) меліся дзе-небудзь партызанскія аддзелы у ... 700 чалавек. Шмат партызанскіх аддзелаў змагалася калісьці (да 1925/26 г. г.) у Вяліскім павеце. Прыгадваюцца тут слаўныя імёны кіраўнікоў гэраічных партызанскіх аддзелаў, як — Грамабой, «Барон Кіш», Воранаў, Таварас, Зацэрын, Музыкантаў, Нілёнак і інш. Аднак ні адзін з гэтых аддзелаў не налічваў больш за 40—50 партызанаў. На жаль усё гэтае не вядома аўтарам артыкулу. Што датычыць даволі рамантычнай назвы «Белая Сьвітка», дык, абстрагуючыся ў гэтай галіне цалкам ад глыбокапаважаных аўтараў, мы прыгадваем, што такая назва запраўды існуе ў адным з твораў генэрала Краснова.

Крыху наконт помніку, пастаўленага у часе апошняе вайны на брацкіх могілках, растраляных бальшавікамі вяліжанаў. Папершае, ён быў пастаўлены не «сваякамі» ўдзельнікаў «Белае Сьвіткі», а беларускім пісьменьнікам-узвышэнцам, які ўдзельнічаў у Вяліскім паўстаньні 1918 г. і паводля ягоных словаў ужо тут на эміграцыі ў 1952 г. даведаўся пра «Белую Сьвітку», Падругое, гэты помнік уяўляў з сябе не «гранітавы крыж», а мэталічны крыж, які перад вайной быў скінуты бальшавікамі з паруганага імі вяліскага касьцёлу ўва імя Найвышэйшых Апосталаў Пётры і Паўла. Патрэйцяе, на ім быў ня той надпіс, які прыгадваецца ў артыкуле двох аўтараў, а наступны:

«Тут бальшавікамі былі пазьвярынаму забітыя і бяз трунаў закапаныя каля тысячы найлепшых сыноў беларускага народу. Яны загінулі ў змаганьні за нашыя шчасьце і волю. Вечная ім памяць і слава.»

«Няма большае любові, калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх».

Іоан, 15. 13.

Затое канец артыкулу цалкам супадае з праўдай, а менавіта:

«Цяпер, зразумела, гэтага крыжа ўжо няма. Але надпіс быў зроблены ня толькі на ім а і ў сэрцах усіх верных патрыётаў Беларусі-няпрымірымых ворагаў бальшавізму».

Да гэтага добрага канца трэба дадаць толькі адзін сказ. Змаганьне беларускіх партызанаў з расейскім бальшавізмам настолькі гэраічнае і зьмястоўнае, што для адлюстраваньня яго зусім ня трэба карыстацца вымысламі, якія зьневажаюць Сьвятую Памяць партызанаў і падрываюць давер да іхняга змаганьня ў вачох суродзічаў і чужынцаў.

Прашу Высокашаноўны Спадар Рэдактар прыняць мае самыя найлепшыя пажаданьні ў Вашай пачэснай працы

**Беларус з Вяліжу**

3. 5. 1952.

## Дзве падзеі гістарычнага значэньня

(Заканчэньне)

чаньня сваіх сілаў і ўсіх сваіх намаганьняў у ваблiччы супольнае небясьпекі перад загрозай савецкае агрэсыі.

Такім чынам абодвы дагаворы мінулага тыдня былі бліскучым укаранаваньнем дасюлешніх намаганьняў заходніх дзяржаваў у галіне арганізацыі супольнае абароны. Гэта была таксама ня менш бліскучая перамога дэмакратычнага Захаду над камуністычным Усходам.

Няма найменшага сумліву, што перамога гэтая ёсьць і яшчэ будзе ўсяго толькі перамогай палітычнай да таго часу, пакуль заходняя Эўропа ў сілу прынятых на сябе гэтымі дагаворамі забавязаньняў ня выставіць адпаведнай колькасьці належна ўзброеных дывізыяў. Пакуль-жа гэта ня станецца, небясьпека савецкай агрэсыі ня толькі ня зьменшыцца, але навет можа павялічыцца. Яна можа павялічыцца ў тым выпадку, калі Эўропа, будучая сяньня выстаўленая на пробу, ня здасьць свайго гістарычнага эгзамену.

**Язэп Каранеўскі**

# Маніфэстацыя паняволеных народаў у Нью Ёрку

**(Паводля прэсавай інфармацыі Амэрыканскіх Прыяцеляў АБН)**

**Нью Ёрк, 4 травень 1952.** На маніфэстацыі прынялі ўдзел 15 нацыянальных групаў, задзіночаных у арганізацыі «Амэрыканскія Прыяцелі Антыбальшавіцкага Блёку Народаў», агулам колькасьцю звыш 4 тысячаў чалавек. У рэзалюцыі, прынятай на маніфэстацыі, яны прапанавалі: «даручыць амэрыканскім дэлегатам у ЗН прадставіць плян мірнага вырашэньня сучаснага сусьветнага крызысу шляхам запатрабаваньня ад Савецкае Расеі звароту свабоды ўсім паняволеным народам, адводу ўсіх расейскіх войскаў зь нерасейскіх тэрыторыяў і ўмажліўленьня народам вызваленых тэрыторыяў пад кантролем ЗН выбраць іхныя нацыянальныя дэмакратычныя ўрады на собскіх этнаграфічных тэрыторыях. Толькі такім чынам можна пазьбегнуць вайны». Далей рэзалюцыя кажа: «калі Савецкая Расея адхіліць гэты плян, мы заклікаем усе свабодалюбныя народы ў Задзіночаных Нацыях зрабіць неадкладныя крокі: 1. выключыць Савецкую Расею зь ейнымі сатэлітамі з арганізацыі ЗН, 2. парваць усе дыпляматычныя й гандлёвыя сувязі з Савецкаю Расеяю й яе сатэлітамі».

Другая рэзалюцыя зьвяртаецца да Задзіночаных Нацыяў з просьбаю дапусьціць запраўдных прадстаўнікоў паняволеных народаў у ЗН і даць ім магчымасьць гаварыць ад імя сваіх народаў. «АБН, як арганізацыя, рэпрэзэнтуючая звыш 250 мільёнаў паняволеных грамадзянаў 25-ці народаў, можа мець права кансультаваць Задзіночаныя Нацыі ў пытаньнях абароны людзкіх праvоў» — гаворыцца ў рэзалюцыі.

З кароткімі прамовамі выступілі прадстаўнікі 15 паняволеных народаў: Азэрбайджан, Баўгарыя, Беларусь, Кітай (нацыянальны), Казакія, Эстонія, Грузія, Мадзяршчына, Ідэль-Урал, Латвія, Летува, Паўночны Каўказ, Славаччына, Туркестан, Украіна.

Дзяўчаты й жанчыны ў шматкалёрных вопратках 15 паняволеных народаў спаткалі прыбываючых гасьцей. Вялізарны звон свабоды зь лёзунгамі, патрабуючымі свабоды іхным народам, упрыгожыў сцэну. Вэтэраны замежных войскаў ЗША трымалі ганаровую варту ля амэрыканскага сьцягу. Сьцягі 15 нацыянальнасьцяў з ганаровымі вартамі ўставіліся ў альфабэтычным парадку.

Кангрэсмэн Р. Гвінн (рэспубліканец з Вэнтчэстэру) і кангрэсмэн О. К. Армстронг (рэспубліканец зь Місуры) асабіста прынялі ўдзел у маніфэстацыі й выступілі з прамовамі.

Прэзыдэнт ЗША Труман прыслаў сваё пасланьне да паняволеных народаў, у якім сьцьвердзіў: «**... сяньня захопніцкая палітыка Вашых валадароў змушае нас збройцца, каб бараніць сябе, але ў нашых сэрцах мы ня маем ненавісьці да Вас. Мы ведаем, колькі пакутаў зносіце Вы пад гнётам і тэрорам. Мы ведаем, што калі-б Вы былі свабодныя, каб выказаць свае перакананьні, Вы далучыліся-б да нас з мэтаю адагнаць змору вайны і забясьпечыць мір на зямлі. Я хачу, каб Вы ведалі, што нашым найвышэйшым жаданьнем ёсьць мір, сяброўства й чаканы канец жахаў вайны ...**»

Сэнатар Тэфт — кандыдат на прэзыдэнта ЗША ў сваім прывітаньні сказаў: **«Мы мусім узначальваць сілы свабоды ўсіх тых, для каго свабода азначае ўсё, тых, хто яе страціў. Амэрыка падтрымоўвала ўсе вызвольныя змаганьні, пачынаючы ад Рэвалюцыйнае Вайны, што выклікала Францускую Рэвалюцыю, і падобныя-ж паўстаньні свабодалюбных людзей Эўропы й лацінскае Амэрыкі. Амэрыка мусіць і хоча рабіць тое самае й сяньня».**

Сэнатар Ірвінг М. Айвэс зь Нью Ёрку сказаў: **«Давайце ўсе, хто хоча бараніць свабоду, задзіночымся й працуйма разам, каб забясьпечыць трыумф свабоды над дэспатызмам бязбожнага камунізму ...»**

Губэрнатар Джон Ледж з Канэктыкут пажадаў, **«... каб маніфэстацыя ўзмоцніла на духу ўсе ахвяры савецкае тыраніі ў іхным супраціве сілам тыраніі, што часова прыгнятаюць іх».**

Джон Ф. Стуарт, старшыня Шкоцкае Лігі за Свабоду Эўропы прыслаў зьмястоўнае прывітаньне з Эдынбургу (Шкоцыя), у якім гаворыць аб сваім досьледзе ў справах Расеі. Ён дамагаецца **«поўнага распадзелу расейскае імпэрыі ў якім-бы выглядзе яна ня існавала. Не павінна быць ніякае падтрымкі ідэі «сьвятое матушкі Расеі адзінае й недзялімае»** — піша сп. Стуарт — **«для якое гэтак шмат грошай асыгноўваецца мяккасэрднымі й яшчэ больш лёгкадумнымі амэрыканцамі. Расейская эміграцыя, што ўзначальвае гэты рух, мае адну мэту — зваліць Сталіна, каб самой заняць ягонае месца. Яны хочаць свабоды для сябе, але адмаўляюць яе ўсім акупаваным краінам. Гэта бяспраўе... неабходна ўсьведаміць, што Расея царская, керэнская, бальшавіцкая ці якая іншая імкнулася заўсёды да панаваньня над сьветам і ніякая схэма, калі яна ня будзе імкнуцца вырваць з пад кантролі Расеі нерасейскія народы, ня будзе здольная спыніць расейскае экспансыі ...»**

Ад беларусаў была зачытаная на маніфэстацыі зьмястоўная прамова сп. А. Адамовіча, які, з прычыны хваробы, ня мог асабіста зьявіцца на маніфэстацыі. Падаўшы ў кароткіх словах гісторыю вызвольнага змаганьня беларускага народу, ён закончыў яе наступнымі словамі: **«І цяпер, дзе толькі ў вольным дэмакратычным сьвеце ёсьць нагода змагацца з бальшавіцкай дзейнасьцю, кажны там знойдзе беларусаў, бо бальшавізм руйнуе нашую дзяржаву, нашую нацыю; бо змаганьне супраць камунізму ёсьць часткаю змаганьня супраць расейскага імпэрыялізму за свабоду й незалежнасьць нашага народу. У гэтым змаганьні мы йдзём рука ў руку з усімі народамі, задзіночанымі ў Антыбальшавіцкім Блёку Народаў».**

Беларускую нацыянальную групу прадстаўляў на маніфэстацыі інж. Міхась Рагуля — старшыня Беларускага Сэктару Амэрыканскіх Прыяцеляў АБН.

А іскры-зорачкі шчасьліва
Бягуць-плывуць бліскучым роем
Угору ў голькі к тоўстым хвоям
І ў верхавінах прападаюць,
Бы вочкі плюшчаць, уміраюць.
Тут сьветла, весела, ўсё жыва,
А ў лесе цьма ляжыць маўкліва,
Глядзіць панура, неласкава,
Што ня ў свой час ідзе забава.
Дрыгучы блеск вакол гуляе
І цьму адгэтуль адганяе
І піша здольныя малюнкі
І фарбаў розныя гатункі
Па тоўстых хвоях раськідае,
Дзівоты чараў выяўляе.
Сядзяць паны, як страхі тыя,
А міны важныя такія,
Усе няпрыступны і ўсе горды,
Рашучы погляды і цьвёрды,
А ў кажным слове, ў кажным руху
Відна зьнявага ды „пся юха”.
„Пся юхі”-ж ім усяк слугуюць
І для вячэры стол гатуюць,
Ў вагонь бярвеньні падкідаюць
І прад панамі выдыгаюць.
І вось за стол паны сядзяцца,
Ім заманулась частавацца;
Кілішкі „вудкай” наліваюць
І чаркі з чаркамі стыкаюць,
Жуюць смажэньне і вяндліну
І хваляць добрую часіну.
А „вудка” больш разьвесяляе;
Пан равізовы зачынае:
„Ешчэ Польска не згінэла,
Пукі мы жыемы”.
Паны адны перад другімі
Шыкуюць жартамі сваімі,
Свой розум, гонар выстаўляюць
І дубальтоўкі выслаўляюць.
Ракоўскі, злосны зь лясьнікамі,
Зусім ня той цяпер з панамі.

Паны ў хвальбе ня зналі меры,
Самым сабе ня мелі веры,
Ды пра лганьнё сваё маўчалі,
Не падсяваючы ўсе лгалі.
— А я, — тут Сьвіда выступае,
Ён вус угору падымае
І панству кідае з запалам: —
Седм вількув забіл едным стшалам! —
Паны на момант слупянеюць,
Жавать іх ськівіцы ня сьмеюць:
Загнаў пан Сьвіда ім загвоздку,
Як-бы у горла ўсунуў костку.
— Дальбуг, цікава, даен слова! —
Сказаў нарэшце равізовы.
— Гм! як-жа гэта, проша пана? —
Ўсіх зрэзаў Сьвіда нечакана
І верх цяпер над імі мае.
Паноў аж зайздрасьць разьбірае.
— То пан жартуе, як то можна? —
Паны развагу вядуць розна:
Сказаць: салгаў — ня выпадае,
Паверыць — веры не хапае;
Як-бы агорнуты ў праменьні,
Навокал горда пазірае
А паўнамоцны ў здаваленьні,
І важна шчокі надзімае,
Як-бы паноў ён і ня бачыць.
— Няхай-жа пан то растлумачыць!
— А так, панове: едным стшалам! —
Зноў ткнуў іх Сьвіда, як-бы джалам.
Ў канцы дае ім тлумачэньне:
Забіў ваўчыцу на шчаненьні.
Паны, лясьнічы й равізовы,
Як па камандзе, б'юць галовы:
— І як то мы не дагадаліс! —
І доўга ўсе яны сьмяяліс.
Назаўтра рана чуць разднела,
Чуць-чуць на ўсходзе пасьвятлела,
Была кароткая нарада,
Каму вясьці якога пана.
„Абы ня гэтага шатана,
Хоць-бы ня мне ўсучылі гада”, —
Міхал падумаў аб лясьнічым.
„Абы ня з гэтым паляўнічым”, —
Так і другія разважалі,
Пераглядаліся, чакалі.
Але як Сьвіда быў тут глаўны,
А зь лясьнікоў найболей слаўны
Міхал даўно ўжо тут лічыўся,
То ён Міхалу даручыўся,
Кржывіцкі Пальчыку застаўся,
А ў трэцяй пары аказаўся
Ніхто другі, як наш Гавака;
Аж ўздыхнуў ён, небарака.
Разьмеркаваўшысь такім чынам,
Паны па розных пуцявінах
Ідуць на токі зь лясьнікамі.
Міхал здалёк пайшоў цянькамі;
Гатовы плян даўно ён мае,
Ідзе і Сьвіду навучае.
Гаворыць з прыцiскам, хоць ціха.
Каб ня ўстрывожыць тое ліха.
— Вось тут, паночку, „такавіска”,
Глушэц асочаны ўжо блізка,
Няхай-жа пан ідзе ціхутка,
Бо гэта штучка вельмі чутка:
Не асьцярогся — і прапала.
І Сьвіда слухае Міхала,
Што толькі той ні загадае.
Міхал над панам волю мае,
Цяпер ён пан хоць на мінутку.
„Скачы-ж, браток, пад маю дудку,
Прызнай-жа мне і ты пашану!” —
Міхал у думках, кажа пану.
Спынюся я — і пан спыніся!
— Як скокну я — і пан хай скача;
Глядзі-ж, панок, не памыліся,
Каб тут ня вынікла няўдача! —
Міхал замёр, стаіць маўкліва,
А зь ім і Сьвіда нярухліва.
У лесе значна пасьвятлела,
І вось дзесь блізка, перш нясьмела
Заграў глушэц і абарваўся
Ды зноў зачаў, разбалбатаўся.
Міхал даў знак. Скок-скок! спыніўся,
— Ці бачыць пан? унь-унь чарнее...
Зь ім радам Сьвіда апыніўся.
Ой, не: хай, пан, цярпець умее! —
А Сьвіда стаў пароць гарачку
І ўжо у стрэльбе ўзьвёў сабачку.
Пан папсаваці справу можа! —
— Ня руш! ня руш, пан! о, крый Божа:
Яшчэ мінуту улучылі,
На крокаў дваццаць падступілі.
Цяпер глушэц, як на далоні,
Сядзіць, бы шула, у заслоне
Хваёвых лапак, хвост мятлою,
Як-бы любуецца сабою,
Балбоча, крэхкае і сьвішча,
Глушэц склікае на ігрышча,
А мо' хваленьні жыцьцю правіць
І гэты бор спрадвечны славіць.
Міхал і Сьвіда той часінай
Стаялі моўчкі пад ялінай.
Пан Сьвіда стрэльбу падымае
І доўга цэліцца... страляе.
Бух! — гукнуў стрэл, лес узбудзіўся!
Дымок раўнюткаю стралою
Жахнуў старую гэту хвою,
Зь якой глушэц даўно зрадніўся
І раптам зь ёю разлучыўся,
У момант зьвяў і страціў сілы
І не пасьпеў разьняць ён крылы,
На мяккі дол, на мох зялёны
Упаў, на сьмерць акрываўлёны;
Ўзьнялась галоўка і апала,
Два разы лапка задрыжала,
На век застыла нярухома.
А Сьвіда рад быў, рад вядома:
Рублём Міхала ён трактуе,
Цыгаркай хвацкаю частуе.

(Далей будзе)

# Ці абсэрвуе нас іншая плянэта?

**Справа г. зв. «лятаючых талерак», аб якіх пішацца часта ў газэтах, зьяўляецца апошнім часам узноў прадметам амэрыканскай і ангельскай прэсы. Справа гэтая сяньня ўжо выйшла паза рамы людзкой фантазыі й становіцца тэмай навуковых дасьледваньняў. На гэтую тэму й пад вышэйшым загалоўкам польская газэта «Остатне Вядомосьці» змясьціла цікавы артыкул сп. Я. Вэдава, які, дзеля абзнаямленьня нашых чытачоў з гэтым цікавым і нявыясьненым яшчэ зьявішчам, ніжэй перадрукоўваем поўнасьцю.**

### АГНІСТЫЯ КУЛІ НАД АМЭРЫКАЙ

У розных пунктах сьвету апошнім часам было ўзноў заўважанае паяўленьне на небе таёмных лятаючых аб'ектаў: над Мэксыкам, Індыяй, Карэяй, Паўдзённай Афрыкай, Швайцарыяй, Канадай і напасьледак над Задзіночанымі Штатамі. Гэтым разам ня была ўжо гэта толькі людзкая фантазыя, але дакладныя й фаховыя рапарты людзей навукі.

Аднэй ноччу над Любок у штаце Тэксас раптоўна паявіліся на небе бліскучыя колцы, якія плылі на вялікай вышыні ў зьлітнай і сымэтрычнай форме літары «V». Фатаграфія гэтых «лятаючых талерак», якую мы нядаўна бачылі ў ангельскіх газэтах, была прадметам грунтоўных дасьледваньняў, аднак вучоныя не маглі знайсьці адказу на гэтае дзіўнае зьявішча.

Потым прыйшлі рапарты зь іншых часьцінаў Задзіночаных Штатаў і з Мэксыку. На працягу 13 дзён паяўлялася сэрыя бліскучых, зялёных аб'ектаў, абазначаных, як «агністыя кулі», якія праразалі неба над Новым Мэксыкам і Оклягамай у рэгулярных адрэзках часу.

Першае афіцыяльнае выясьненьне паведамляла, што быў гэта якісьці выключны ў сваім характары «дождж» мэтэораідаў, аднак спэцыяльныя досьледы, праведзеныя прафэсарам Лінкольнам Ля Паз з унівэрсытэту ў Новым Мэксыку й ягоныя канчальныя вывады, запярэчылі гэтай тэорыі.

### ЗАГАДКАВЫЯ ВІЗЫТЫ НАД ІНДЫЯЙ

Варта тут прывесьці яшчэ два іншыя здарэньні, якія нядаўна выклікалі жывы водгалас у вайсковых штабах Амэрыкі й Ангельшчыны. Першае мела месца падчас ваенных дзеяньняў у Карэі.

Падчас аднаго з начных налётаў на Вонсан у паўночнай Карэі лётнікі двух амэрыканскіх бамбардавальнікаў раптоўна зацемілі бліскучы дыск, абрамаваны памаранчавым агністым вянком, які, вельмі шыбка віруючы, пачаў збліжацца да лятучых самалётаў.

Гэты віруючы прадмет знаходзіўся каля самалётаў на працягу поўных пяці мінут, лятучы трохі выжэй над імі з шыбкасьцю 200 міляў на гадзіну. Пазьней зьнікнуў так шыбка, як і паявіўся, расплываючыся ў чорным бяздоньні неба . . .

Аднаго дня каля 11-яй гадзіны раніцай раптоўна паявіўся над сталіцай Індыі Нью Дэлі бліскучы аб'ект у форме цыгары даўжынёй каля 100 стопаў, цягнучы за сабой хвост полымя. Ляцеў бязголасна на вышыні 5.000 стопаў зь вялікай шыбкасьцю 2.000 міляў на гадзіну. На працягу 20 мінут гэты бліскучы прадмет кружыў над горадам, абсэрваваны тысячамі людзей. З мамэнтам, калі два дызэльныя зьнішчальнікі падняліся зь лётнішча з мэтаю зблізіцца да таёмнага надпаветранага гасьця, аб'ект, што кружыў на небе, з маланкавай шыбкасьцю пачаў падносіцца ўгару, асягаючы вышыню 20.000 стопаў, аж напасьледак зусім зьнік . . .

Тэй самай ночы яго заўважылі ў горадзе Алягабад, аддаленым на 400 міляў, а дакладна 14 дзён пазьней той самы аб'ект паявіўся ўзноў над Нью Дэлі, кружачы на тэй самай, што й раней, вышыні ўзноў на працягу 20 мінут. Потым раптоўна, зь нячуванай шыбкасьцю, выстраліў у гару, падыймаючыся ў вышыню пад кутом 80 градусаў, аж зьнікнуў з вачэй, пакідаючы па сабе доўгую белую сьпіральную хмару, якая трымалася на небе на працягу 20 мінут.

### «ЗЬВЯРТАЙЦЕ УВАГУ НА НЕБА!»

Ніякія дасюлешнія досьледы на тэму «лятаючых талерак» ня далі ніякіх канкрэтных вынікаў. Адзін факт быў толькі бясспрэчна сьцьверджаны, што, наперакор дасюлешнім домыслам, лятаючыя аб'екты абсалютна не зьяўляюцца новым таёмным расейскім аружжам.

У мінулым тыдні камандаваньне амэрыканскіх паветраных сілаў выдала з Вашынгтону спэцыяльны камунікат, ськіваваны да ўсіх базаў і лётніцкіх станцыяў, а таксама агульны апэль да ўсіх грамадзянаў ЗША, каб безадкладна заяўлялі аб паяўленьні таёмных лятаючых аб'ектаў і прысылалі дакладныя рапарты адпаведным вайсковым уладам.

На выніқі ня трэба было доўга чакаць. Пасьля некалькіх дзён надыйшоў першы рапарт з Арызоны. Над Бэнсонам заўважана а 11-ай гадзіне раніцай ясна бліскучы прадмет, які плыў высака на пагодным сінім небе. Безадкладна было паведамлена зь лётнішча цераз радыё лётніка С. Лёгана, які знаходзіўся ў паветры. Машына Лёгана мамэнтальна завярнулася й пачала падыймацца па небе на спатканьне таемнага аб'екту. Лётнік, апісваючы потым свае ўражаньні, азначыў яго «шэсьць разоў большым ад супэркрэпасьці Б-29, бяз крыльляў і дызэльных прыладаў. Ня быў падобны да талеркі, а меў скарэй за ўсё авальную форму й блішчэў, як паляраваны алюміні. Паляцеў я так высака, як толькі мог — да 14.000 стопаў, і выглядала на тое, што гэны прадмет знаходзіўся яшчэ што найменей 40.000 стопаў нада мной. Ня мог я ляцець вышэй, бо ня меў з сабой оксыгэну».

### КАМІСЫЯ «С»

У Амэрыцы ўжо перасталі ўважаць «лятаючыя талеркі» за фантазыю й тэму для сэнсацыйных прэсавых паведамленьняў. Пасьля параўнаньня цэлага раду фактаў і выснаваў, у вайсковых і навуковых асяродзьдзях прыйшлі да пераканаць, што справа гэтая насьпела да таго, каб ей заняцца глыбей і паважней. Гэтае пытаньне абапіраецца не на імагінацыі й фантазыі, але на рэчовых канкрэтных фактах. А загадкі неразьвязваюцца самі толькі тым, што іх ігнаруюць . . .

Камандваньне амэрыканскім лётніцтвам мае ў сваіх руках цэлы рад довадаў на тое, што паяўленьне над зямлёй таёмных лятаючых аб'ектаў ня ёсьць прыпадковым, што візыты гэтыя пачынаюць быць што раз часьцейшымі, што носяць характар рэгулярны і што мусіць імі кіраваць нейкая зарганізаваная сіла ці думка

Яшчэ год таму назад людзі, што стаяць на чале амэрыканскіх збройных сілаў, адкідалі тэорыю аб «лятаючых талерках», як фантастычную й нерэальную. Сяньня гэтая справа была даверана спэцыяльнай **Камісыі «С»**, і працуе над ей цэлы штаб вычоных, экспэртаў і тэхнікаў, стараючыся выясьніць гэтую загадку, якая перастала быць пытаньнем, што цікавіць толькі Задзіночаныя Штаты або Амэрыку, але абыймае ўвесь сьвет, могучы стацца для яго загрозай.

### «УЭЛЬСАЎСКАЯ» ТЭОРЫЯ Др. БРАУНА

Адзін з найвыдатнейшых сучасных вучоных **др. фон Браўн,** які працуе цяпер у Амэрыцы, спэцыялісты ў галіне кіраваных ракетных і міжплянэтных стрэлаў, вынаходнік «V-2» і цэлага раду найбольш навачасных далёкасягальных ракетаў, выступіў гэтымі днямі з рэвэляцыйнай тэорыяй, што датычыцца паходжаньня «лятаючых талерак». На ягоную думку, гэныя аб'екты, што паяўляюцца над зямлёй, паходзяць «звонку», г. зн. зь міжплянэтнага прастору. Яны маюць быццам прыходзіць з Марса й быць кіраванымі зусім нязнанымі чалавечаму мазгу сіламі, прылятаючы над зямлю ў мэтах абсэрвацыйных і распазнавальных . . .

Нельга сьцьвердзіць, сколькі ў гэтым асьветчаньні ёсьць фантазыі, а сколькі праўдападобнасьці. З аднаго боку цяжка паверыць, каб навет такой меры вучоны, як др. Браўн, мог што-небудзь ведаць аб рэчах, якія яшчэ знаходзяцца паза межамі й магчымасьцямі людзкай веды.

З другога боку насоўваецца назойліва ўспамін фантазыі Г. Г. Уэльса й ягоных парываючых фантазыю абразоў із «Змаганьня Сьветаў», — і калі чытаеш асьветчаньне Браўна, мімавольна прыпамінаюцца словы Уэльса, што распачынаюць гэную кнігу разьдзелам аб інвазыі жыхароў Марса:

«Ніхто не паверыў-бы ў вапошніх гадох XIX стагодзьдзя, што наш сьвет быў пільна і дакладна абсэрваваны інтэлігенцыямі, вышэйшымі за чалавека, а таксама сьмяротнымі, як ягоная собская . . .»

Сяньня мы ўвайшлі ў другую палавіну XX стагодзьдзя. І сяньня гэніяльная калісьці фантазыя Вэрнэ перастала ўжо быць фантазыяй . . .

# Галоўны штаб Камінформу

У заходняй прэсе паявіліся дакладныя інфармацыі аб цэнтралі Камінформу, якая знаходзіцца ў сталіцы сатэлітнай Румыніі, Букарэшце. Згодна гэтых інфармацыяў, арганізацыйная структура камінформу й умовы жыцьця ягонага адміністрацыйнага пэрсаналу прадстаўляюцца наступна.

Букарэшт, вуліца Валер'ю Браністэ 56 — гэта вялікі будынак, што належыць да дзяржавы. Будынак дзень і ноч пільна сьцеражэ спэцыяльны аддзел румынскай паліцыі й савецкіх агентаў НКВД-МВД. Уваход у будынак толькі за спэцыяльным пропускам, безь якога ня могуць быць упушчаныя навет найвышэйшыя дзяржаўныя ўрадаўцы і сябры румунскага ўраду.

Валер'ю Браністэ 56 — гэта бюро, цэнтраля Камінформу, дзе працуе, а прынамсі працавала ў палавіне мінулага году, ад 700 да 1.000 урадаўцаў. Сяньня мае іх быць 1.200, а, як некаторыя хочаць, навет 1.500. Усе яны жывуць разам у вадным з заходніх прадмесьцяў Букарэшту, дзе для гэтай мэты былі спэцыяльна эвакуаваныя дзьве вуліцы. Гэта ёсьць найбольш элеганцкая часьць румынскай сталіцы, а дамы — гэта люксусовыя вілі, аддзеленыя ад вуліцы й суседніх віляў вялікімі агародамі. Жывуць тут яны зусім ізаляваныя ад астальных жыхароў, маюць собскія школы, собскія магазыны, собскія шпіталі, словам усё, што ёсьць патрэбным для жыцьця. Паза сваім люксусовым кварталам і будынкам Камінформу, ня можна ім камунікавацца з вонкавым сьветам, а хочучы хоць на паўдня пакінуць Букарэшт, мусяць перад гэтым атрымаць спэцыяльнае пазваленьне.

Кіраўніцтва камінформаўскай цэнтралі знаходзіцца афіцыяльна ў руках дырэкторыі, што складаецца з 16 сяброў, неафіцыяльна аднак ёй кіруюць два савецкія камуністыя Суслоў і Юдзін. Абодвы маюць дыктатарскія паўнамоцтвы. Першы зь іх зьяўляецца адначасна шэфам савецкай прапаганды, генэральным сакратаром выканаўчага органу Камінформу й лучнікам між ім і маскоўскім Палітбюро, а таму знаходзіцца ў сталых разьездах. Заступае яго тады Юдзін.

Камінформаўскае бюро складаецца з чатырох дэпартамэнтаў, да якіх, паводля найнавейшых інфармацыяў, дайшоў нядаўна пяты. Найважнейшы зь іх зьяўляецца дэпартамант інфармацыі, якім кіруе асабіста Юдзін і які мае 160 чалавек пэрсаналу. Ягоным заданьнем ёсьць апрацоўваньне галоўнай палітычнай лініі для партыі. Ён так-жа праводзіць слынныя «чысткі» ўва ўсіх камуністычных партыях і ён-жа кіруе ідэалягічным і палітычным змаганьнем з г. зв. цітаўцамі.

Другім з гледзішча на важнасьць зьяўляецца дэпартамант вайсковы, у якім працуе 370 урадаўцаў, выключна савецкіх грамадзянаў. Кіруе ім ня хто іншы, як Ракасоўскі. Ягонымі заступнікамі зьяўляюцца маршал Конеў, ген. Сьвірыдаў і віцэ-міністар Зорын. Адзін з гэтай тройкі стала прабывае ў Букарэшце. Гэты дэпартамант мае пяць сэкцыяў: вайсковых інфармацыяў (з собскай сеткай агентаў на Захадзе), камунікацыі, узбраеньня, службы сувязі із спэцыяльным нутраным аддзелам перасыланьня агентаў, і мілітарных апэрацыяў.

Наступным з чаргі зьяўляецца дэпартамант гаспадарскі, якім кіруе праф. Варга, потым дэпартамант прапаганды, на чале якога стаіць нейкі Кольман, і апошні — дэпартамант палітычны.

Аб Кольмане ведама ўсяго столькі, што ён не зьяўляецца расейцам, хаця ад першай сусьветнай вайны мае савецкае грамадзянства. У ягоным дэпартаманце працуе 70 чалавек, палавіну якіх твораць расейцы. Незалежна ад іх падлягаюць яму г. зв. «абсэрватары», раськінутыя па ўсіх заходніх краінах. Гэты дэпартамант складаецца з двух паддэпартамантаў, зь якіх першы дзеліцца далей на пяць сэкцыяў: славянскую, нямецкую, ангельскую, лацінскую й каляніяльную, аб другім затое нічога ня ведама. Дэпартамант палітычны мае чатыры паддэпартаманты: загранічнай палітыкі з 274 урадаўцамі, прафэсыянальных саюзаў, арганізацыяў моладзі і справаў рэлігійных.

# Нарада у Летувіскім Доме

У сыботу 5. 4. 1952 у Летувіскім Доме ў Кліўлендзе адбылося спатканьне прадстаўнікоў мясцовых рэпрэзэнтацыйных арганізацыяў беларусаў, украінцаў, славакаў і летувісаў. На спатканьні прысутнічылі Старшыня Беларускага Злучанага Камітэту ў Кліўлендзе А. Кахаsucceedоўскі, 5 сяброў Украінскага Злучанага Камітэту на чале із Старшынёю О. Маліцкім, Сакратар Лігі Славакаў у ЗША проф. Грушоўскі й 4 сябры Летувіскае Тарыбы ў ЗША на чале із Віцэ-Старшынёй І. Маліноўскасам. Абмяняўшыся думкамі, прысутныя адназгодна пастанавілі стварыць у Кліўлендзе міжнацыянальную арганізацыю паняволеных Расеяй народаў для цясьнейшага палітычнага, грамадзкага, культурнага й усялякага іншага супрацоўніцтва. На наступнае спатканьне ў Украінскім Народным Доме будуць запрошаныя прадстаўнікі іншых народаў, і тады арганізацыя канчальна паўстане.

# Гісторык Тойнбі аб Усходняй Эўропе

4 травеня ў Нью Ёрку адбылася чарговая навуковая зборка Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва з рэфэратам праф. Льва Акіншэвіча на тэму: «Гісторыя цывілізацыі Усходняй Эўропы паводля канцэпцыі Арнольда Тойнбі». Рэфэрэнт у сваім цікавым рэфэраце нарысаваў прысутным абраз і мэханізм разьвіцьця гісторыі цывілізацыяў, як іх сабе прадстаўляе адзін з найвыдатнейшых сучасных гісторыкаў, ангелец Тойнбі, у сваей дзевяцітамовай працы аб шляхох і правох разьвіцьця сусьветнай гісторыі.

Рэфэрат неспадзеўкі стаўся ня толькі цікавым, але й актуальным, бо некалькі дзён перад гэтым Арнольд Тойнбі прыляцеў з Ангельшчыны ў ЗША, каб, на запросіны Рокфэлерскай Фундацыі, чытаць свае лекцыі на адным з амэрыканскіх унівэрсытэтаў.

Рэфэрэнт у вагульным начырку спачатку даў разьвітую, Тойнбі тэорыю аб вядучай, творчай мяншыні кажнага грамадзянства, якая паўстае, паволі выраджаецца й пазьней нішчыцца разбуральнай бальшынёй, як аснаўным фармуючым дзейніку гісторыі кажнай людзкой грамады й цывілізацыі.

Больш дакладна рэфэрэнт затрымаўся на паглядах Тойнбі на гісторыю Ўсходняй Эўропы ўключна зь беларускім нацыянальным прасторам, падчырківаючы недакладнае веданьне Тойнбі гісторыі гэтага прастору, і стуль ня раз памылковыя вывады. З працы Тойнбі ня відаць, каб ён усьведамляў сабе й разумеў тую выдатную гістарычную ролю для ўсяго Усходу Эўропы былой беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

Жывая дыскусія пасьля рэфэрату, у якой забіралі голас дацэнт Ліманоўскі, дацэнт Дарашэвіч, праф. Я. Станкевіч, япіскап Васіль, сп. Сядура, Манькоўскі, В. Русак і іншыя, выказала значнае зацікаўленьне тэмаю й паглыбіла крытычны пагляд на канцэпцыю Тойнбі, калі ходзіць аб гісторыю Ўсходняй Эўропы.

Дыскусія перадусім выявіла, што назва Тойнбі для маскоўска-расейскага цывілізацыйнага кругу — «расейска-праваслаўная культура» зусім неадпаведная. Хаця праваслаўная вера й іграла не малую ролю ў гісторыі Расеі, царква амаль увесь час была падпарадкаваная там дэспатычнай палітычна-дзяржаўнай уладзе, якая выкарыстоўвала яе як інструмэнт у сваіх палітычных імпэрыялістычных мэтах. Асабліва памылковым ёсьць называньне «праваслаўнай цывілізацыяй» таго расейскага грамадзка палітычнага й культурнага ладу, які існуе ў Расеі ўжо чацьверты дзесятак гадоў.

На рэфэрат, які адбыўся ў прасторнай залі Украінскага Літаратурна-Мастацкага Клюбу, сабралася значная колькасьць беларусаў ня толькі зь Нью Ёрку, але й блізкіх аколіцаў (Саўт Рывэр, Нью Брансьвік), што сьветчыць як аб значным зацікаўленьні падобнымі рэфэратамі, так і іхнай патрэбе.

**Я. Я.**

# Адчыненьне Беларускага Дому у Кліўлендзе

У нядзелю 20. 4. 1952, на першы дзень Вялікадня, а 6-ай гадз. ўвечары, Беларускі Злучаны Камітэт у Кліўлендзе ўрачыста адчыніў Беларускі Народны Дом. За два тыдні перад тым Згуртаваньне Моладзі наводзіла ў ім парадак: мыла, чысьціла, фарбавала, пляла із рознакаляровае паперы гірлянды, разьвешвала на вокнах гардыны; іншыя зноў вазілі й расстаўлялі мэблю, куплялі рэчы для лётэрэі й г. д. Таму да мамэнту адчыненьня асабліва вялікая заля выглядала прыгожа. Урачыстасьць пачалася малітвай у вялікай залі Дому й асьвячэньнем пакояў. Наступна Старшыня Злучанага Камітэту А. Каханоўскі сказаў прынагодную прамову, у якой адзначыў вялікія поступы беларускае калёніі ў Кліўлендзе, якая сваёй ахвярнай і нат энтузыястычнай працай паўгода таму адчыніла сваю царкву, а цяпер адчыняе Народны Дом. Сакратар Камітэту М. Белямук адчытаў павіншаваньні, прысланыя на гэтую ўрачыстасьць Галоўнай Управай БАЗА й Аддзеламі Задзіночаньня ў Саўт Рывэр і Пэорыі. Пасьля гэтага пачаўся вялікодны баль. Грала свая аркестра. Жаночае Згуртаваньне адчыніла буфэт, Згуртаваньне Моладзі — буфэт. На ўрачыстасьці й балі прысутнічалі госьці з Дэтройскага Аддзелу Задзіночаньня, старыя беларускія эміграты й мясцовыя ўкраінцы. Некаторыя мамэнты ўрачыстасьці й балю запісаныя на магнітафон і зафатаграфаваныя. Баль закончыўся позна ўначы.

Наш Народны Дом — гэта выарэндаваны намі трэці паверх досыць вялікага будынку й 3 пакоі на 2-ім паверсе. У ім ёсьць заля із сцэнаю на 350 крэслаў. Знаходзіцца Дом на прыгожай і зялёнай 14-ай Вэст вуліцы (рог Аўбурн) у вадным квартале ад нашае царквы й Лінкольн Парку. Гэта — раён, дзе жыве да 75% нашых людзей.

# Тыдзень Студыяў БКАА «Рунь»

Галоўная Управа Беларускага Каталіцкага Акадэміцкага Аб'еднаньня «Рунь» паведамляе, што тыдзень студыяў і Агульны Зьезд сяброў «Руні» ў гэтым годзе адбудзецца у Лёндане, Marian House, Holden Ave, London, N. 12, у часе ад 20 да 28-га ліпеня сёлета.

Тэма тыдня студыяў: ХРЫСТОС — ДАРОГА, ПРАЎДА І ЖЫЦЬЦЁ.

Будуць прачытаныя наступныя даклады:

а. др. Ч. Сіповіч (Лёндан):
«Жыцьцё Хрыста — храналягічны нарыс»;
«Хрыстос — Бог і Чалавек»;

а. Л. Гарошка (Парыж):
«Мэсыяністычныя прароцтвы Старога Запавету і іх выпаўненьне ў васобе Хрыста»;
«Сьв. Тайны — сродкі да збаўленьня, устаноўленыя Хрыстом»;

сп. І. Садоўскі (Рым):
«Цярпеньне ў сьвятле навукі і прыкладу Хрыста»;

сп. Д. Аніська (Лёндан):
«Найважнейшыя прыказаньні: любоў Бога й бліжняга»;

сп. А. Надсон (Лёндан):
«Казаньне на гары (9 благаславенстваў)»;

сп. Я. Сурвіла (Мадрыд):
«Сацыяльнае пытаньне ў сьвятле Хрыстовай навукі»;

сп. В. Рамук (Лювэн):
«Актуальнасьць Хрыста й Хрыстовай навукі»;

сп. М. Наўмовіч (Парыж):
«Хрыстос у мастацтве»;

сп. Ч. Кукель (Лювэн):
«Хрыстос і Яго Царква»;

сп. Т. Мазура (Лювэн):
«Цуды Хрыста».

У праграме тыдня прадбачыцца адзін дзень рэкалекцыяў. Праектуецца таксама зарганізаваць зьведваньне Лёндану.

У часе тыдня студыяў адбудзецца таксама Агульны Зьезд сяброў «Руні». Дакладная павестка дня зьезду будзе паданая да ведама сябром у пазьнейшым часе.

Удзельнікі (мужчыны) будуць жыць у доме айцоў Мар'янаў, які знайходзіцца ў вадным з найпрыгажэйшых прадмесьцяў Лёндану. Супакой, шмат зелені, сонца й сьвежае паветра робяць гэтае месца ідэальным дзеля адпачынку й набраньня новых сілаў, асабліва для студэнтаў у пасьляэгзамінацыйны пэрыяд.

Жанчыны будуць разьмешчаны ў суседзтве, так што змогуць узяць поўны ўдзел у працах тыдня.

Кошт удзелу ў тыдні студыяў (памешканьне й утрыманьне) выносіць:
для сяброў БКАА «Рунь» — тры ангельскіх фунтаў,
для іншых — тры з паловаю фунты.

З прычыны агранічанай колькасьці месцаў усе, якія жадаюць узяць удзел у тыдні студыяў, павінны паведаміць аб гэтым Галоўную Управу БКАА «Рунь» у як найхутчэйшым часе. Апошні тэрмін рэгістрацыі ёсьць 30-га чэрвеня.

Усю карэспанденцыю ў справе тыдня студыяў кіраваць на адрас: Byelorussian Catholic University Union „Run", Marian House, Holden Avenue, London, N. 12, England.

**Галоўная Управа БКАА «Рунь».**

### ШУКАЮЦЬ

**Братоў Язэпа й Аляксандра Гулецкіх,** народжаных у вёсцы Руднікі Карэліцкага раёну Баранавіцкай акругі, які. праўдападобна пражывалі ў Нямеччыне — шукае Аўгеня Гулецкая, што знаходзіцца цяпер у Канадзе.

Весткі перасылаць на Прадстаўніцтва «Бацькаўшчыны» ў Канадзе.

### ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ

| | |
|---|---|
| 1. ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. Канада | 15 цэнтаў |
| 3. Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. Францыя | 40 франкаў |
| 5 Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. Бэльгія | 5 франкаў |

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**
**Mr. Jan Zaprudnik,**
**19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**